# КНІГАДРУК У ПОЛАЦКУ




## (1774 – 1829)

# КНІГАДРУК У ПОЛАЦКУ
# (1774 – 1829)

Бібліяграфічнае выданне

Полацк
Грэка-каталіцкая парафія
Святапакутніка Язафата
2015

УДК 271+013
ББК 86.375
К 53

Укладальнік
Міхась Баўтовіч

**К 53 Кнігадрук у Полацку (1774 – 1829)** : Бібліяграфічнае выданне / укладальнік М. Баўтовіч. – Полацк: Грэка-каталіцкая парафія Святапакутніка Язафата, 2015. – 203 с.

**ISBN 978-985-6448-1-8**

Кніга змяшчае апісанне выданняў, што выйшлі з-пад варштату полацкае друкарні. Вопіс храналагічна падзелены на дзве часткі. У першай частцы апісаныя кнігі, што выдалі сябры Таварыства Ісуса (1774-1820), у другой – выданні манахаў закону Божай Маці школаў пабожных (1824-1829). Прызначана ня толькі даследчыкам, але і шырокаму колу аматараў гісторыіі Беларусі.

**УДК 271+013**
**ББК 86.375**

**ISBN 978-985-6448-1-8**

## Прадмова

Прапанаваная праца, не зважаючы на падабенства, не з'яўляецца бібліяграфічным даведнікам з розных, як нам падаецца, паважных прычынаў. Паўстанне яе вынікала з жадання даць аматарам гісторыі магчымасць азнаёміцца з выданнямі полацкае друкарні, а даследчыкаў падштурхнуць да комплекснага вывучэння адукацыйнага працэсу полацкіх езуітаў з прыцягненнем звестак аб прадукцыі, што выйшла з-пад варштату мясцовае друкарні. Інфармацыя, збіраная з розных крыніцаў, была даволі фрагментарнай, што не дазволіла для значнае часткі выданняў скласці поўнага бібліяграфічнага апісання. З 496 апісаных у кнізе выданняў (472 езуіцкіх і 24 піярскіх) апісаныя з прагляду ня больш за 60 друкаў. Пераважная ж большасць запісаў угрунтаваныя на старых бібліяграфічных згадках. Назвы некаторых полацкіх выданняў адноўленыя шляхам рэканструкцыі. Апрача таго ў часе працы былі прагледжаныя каля 40 выданняў, выдадзеных у гарадах розных еўрапейскіх краінаў (Рыме, Венецыі, Парыжы, Ліёне, Генце, Кёльне, Лейпцыгу, Аўсбургу, Рэгенсбургу, Інсбруку, Празе), а таксама былое Рэчы Паспалітае (Кракаве, Варшаве, Вільні, Гданьску, Калішы), якія паслужылі ўзорамі для полацкіх друкароў. Сабраныя звесткі дазволілі ўзбагаціць і ўдакладніць інфармацыю, што да полацкіх друкаў.

Спіс друкаў полацкае друкарні ўкладзены паводле храналогіі. У межах аднаго году назвы выданняў размешчаныя паводле альфабэту, бо аўтарства вялікай колькасці твораў засталося нявысветленым. Недатаваныя езуіцкія выданні змешчаныя ў спісе пасля 1820 году. Прозвішчы меркаваных аўтараў (укладальнікаў) пададзеныя ў квадратных дужках. Дзе-нідзе з азначаных вышэй прычынаў не стае звестак пра памер, аб'ём, год выдання. Пасля ўласна апісання канкрэтнае кнігі пазначанае выданне, адкуль паходзіць

бібліяграфічны запіс. Хаця трэба прызнаць, што гэтае цверджанне вымагае тлумачэння. Колькасць згадак, сабраных у працэсе пошуку, для аднога запісу вагалася ад адной да адзінаццаці (у сярэднім 3-4). Змясціць усе згадкі пасля кожнага апісання не ўяўлялася магчымым, бо гэта надзвычай пашырыла б аб'ём кнігі. Таму крыніцы, дзе згадвалася канкрэтнае полацкае выданне абіраліся паводле прыярытэту. Для нашае працы прыярытэтам між бібліяграфічных крыніцаў валодае "Польская бібліяграфія" Караля Эстрэйхера, якая налічвае каля 60 тамоў. Калі ў ёй выданне ня згадвалася пошук працягваўся ў наступнай паводле значнасці крыніцы, кнізе Ірэны Кадульскай "Полацкая Акадэмія ..." і г. д. Але напісанае не азначае, што канкрэтныя бібліяграфічныя звесткі (назва, аб'ём, год выдання) маюцца ў пазначанай крыніцы ва ўсёй паўнаце, бо наш запіс фармаваўся шляхам аналізу і адбору з усіх крыніцаў, дзе выданне згадвалася.

У працэсе пошукаў між аўтараў полацкіх выданняў апрача прозвішчаў шырока вядомых тэалогаў, педагогаў, літаратараў такіх, як Тамаш Кемпійскі, Пётр Скарга, Дамінік дэ Калонья, Адам Нарушэвіч, маюцца імёны менш вядомыя: Нікаля Фурго, Рэнэ Аюі, Тадэвуш Кучынскі. Урэшце ўдалося адшукаць і вярнуць імёны асобаў, якія зусім невядомыя даследчыкам гісторыі Полацкае акадэміі: Ёган Шэга, Максымільян Хэль, Жазэф Шэвасу.

Амаль кожны запіс суправаджае заўвага, дзе насамперш змешчаныя спасылкі на полацкія выданні, якія ідэнтычныя або тэматычна блізкія да апісанага. Апрача таго пры наяўнасці інфармацыі падаецца арыгінальная назва твора, які быў скарыстаны дзеля перакладу або друкарскага ўзнаўлення. Прыкладам для перакладу "Набажэнства да найсалодшага сэрца Ісуса" Станіслаў Шантыр скарыстаў кнігу Караля Борга "Навэна дзеля падрыхтоўкі да свята Найсалодшага Сэрца Ісусавага", што ўпершыню выйшла з друку ў Фэрары ў 1786 годзе (гл. № 109). Дадаткова прыводзяцца сціслыя звесткі пра аўтараў або перакладчыкаў (гл. №№ 37, 52 або 268), пра мясціны або асобаў, што згаданыя ў творы (гл. №№ 44, 46 або 73). Часам тлумачыцца з якой нагоды паўстаў той або іншы твор (гл. №№ 85, 122, 306, 329). Зрэдку для зборнікаў падаюцца назвы твораў, якія ў ім змешчаныя, або імёны аўтараў (гл. №№ 94, 120, 210, 211).

Зразумела, што ня ўсе полацкія выданні патрапілі да змешчанага тут спісу. Гэтак між выданняў, апісаных у кнізе, маюцца некалькі

тамоў часопіса "Miesięcznik Połocki", кожны з якіх складаўся з чатырох нумароў часопіса. Асобныя ж нумары штомесячніка, якіх было ня менш за 16, да спісу ня трапілі. Колькасць календароў, выдадзеных друкарняй, можа павялічыцца яшчэ прыблізна на 12, бо выходзіў ён пэўна штогод. Да спісу не патрапілі асобна друкаваныя каталогі кніг полацкай друкарні Таварыства Ісуса, хаця маюцца звесткі, што яны выходзілі. Верагодным ёсць друк: другога тому твораў Мусніцкага "Drobnieysze poetyckie zabawki" (гл. № 217); прамоваў у гонар імператара Аляксандра I, напісаных Сцяпанам Красоўскім і Антонам Кіркорам і выдадзеных асобна, як тое было з прамовамі Даната Жаброўскага і Язэпа Скрудзеўскага (гл. №№ 372, 373). Ня выключана, што "Słownik polsko-łaciński" Бенэдыкта Вараноўскага выходзіў у некалькіх тамах (гл. № 419). Вышэй напісанае дае спадзеў, што спіс выданняў полацкае друкарні будзе папаўняцца, а іх агульная колькасць можа дасягнуць 600.

*Укладальнік*

## Аб выданнях полацкае тэматыкі XVI – XVIII стст.

Перш чым падыйсці да агляду друкарскае справы полацкіх езуітаў, а пасля іх і піяраў, варта высветліць, ці былі ў манахаў Таварыства Ісуса папярэднікі ў гэтай справе ў Полацку.

Пасля згартання інавацыйнага друкарскага праекту Францішка Скарыны і канчатковага расстання ў 1530 годзе першадрукара з Айчынай, на абсягу Вялікага Княства Літоўскага ніводнай дзейнай друкарні не засталося. Толькі з другой паловы XVI ст. пад патранатам заможных асобаў пачалі паўставаць друкарні ў Берасці, Нясвіжы, Заблудаве, але ня ў Полацку. Ля паўночных межаў здаўна было неспакойна. Распачатыя Масковіяй у 1558 годзе вайсковыя дзеянні ў Ліфляндыі спакою не дадалі. У 1563 годзе паўночная частка Полацкага ваяводства разам з ваяводскім цэнтрам трапіла пад маскоўскую акупацыю, якая доўжылася больш за 16 гадоў. Пасля вызвалення Полацк уяўляў суцэльнае папялішча і патрэбна было не адно дзесяцігоддзе, каб аднавіць звыклы лад жыцця. Таму ня дзіва, што звестак пра полацкі друк з XVI ст. ня маем.

Першае друкаванае выданне XVII ст., тэматычна павязаннае з Полацкам, мае назву "Kazanie O świątobliwym Zywoćie y chwalebney śmierći Przewielebnego w Bodze Oyca Iosaphata Kuncewicza, Arcybiskupa Połockiego, Witebskiego y Mśćisławskiego W cerkwi Cathedralney Połockiey przy depozyciey ciała iego Odprawowane od Oyca Leona Kreuży Nominata na Episkopstwo Smolenskie. Za wolą y roskazaniem starszych z Ruskiego Ięzyka na polski przełożone y w druk podane." Яно ўбачыла святло ў 1625 годзе ў Вільні, хаця, як вынікае з назвы, Лявон Крэўза прамовіў яго ў полацкай царкве Св. Сафіі. Гэта дае падставу для дапушчэння, што друкарская справа ў Полацку наладжаная не была. У 1654-1667 гадах – чарговая вайна з Расеяй, цягам якой Полацк

знаходзіўся ў зоне расейскае акупацыі. Яшчэ перад прыходам расейскіх войскаў базыльяны вывозяць з горада мошчы Язафата Кунцэвіча, бо існавала рэальная пагроза іх знішчэння. Пасля сканчэння вайны ў часе вяртання ў 1667 годзе мошчаў полацкі базыльянін і будучы Кіеўскі мітрапаліт Кіпрыян Жахоўскі гэтаксама ў Вільні выдае твор "Relacya Czternastoletniego Wygnania z Kathedry Połockiey B. Męczennika Iozaphata Przy Szczęsliwym Powrocie Onego Do Teyze Kathedry Czyniona". Тое ж назіраем і між полацкіх езуітаў. Твор прафэсара рыторыкі Полацкае калегіі Андрэя Младзяноўскага "Auguria spei publicae Illustrissimo Domino Casimiro Joanni Sapieha palatino polocensi, capitaneo Volpensi, Onixtensi etc. dum palatinatus sui fasces capesseret exhibita et oblata a Batoreano regio Polocensi S. J. collegio", прысвечаны полацкаму ваяводу Казіміру Яну Сапегу, выходзіць у Вільні. Трохі пазней рэктар Полацкае калегіі ў 1683-1688 гадах палачанін Міхал Буйноўскі свае творы полацкага перыяду "Ranny obiad na posiłek duszy" (1686), "Droga do domu wieczności" (1688), "Ratio status eligendi" (1688) гэтаксама выдае ў Вільні.

Толькі пры самым канцы XVII ст. з’яўляюцца звесткі пра друк у Полацку. Расейскі бібліёграф Чарткоў у працы "Всеобщая библиотека России ..." ў розных месцах і пад рознымі нумарамі падае выданне "О Сакраментахъ", якое, як адзначае аўтар, іншым бібліёграфам невядомае. Да першага запісу бібліёграф дадае, што аўтарам твору ёсць Лявон Кішка, а дазвол на друк падпісаў М. Белазор у Полацку. Другі запіс суправаджае кароткая згадка, што кніга надрукаваная ў Полацку[1]. Пазней гэта дазволіла К. Эстрэйхеру зрабіць выснову, што выданне выйшла ў Полацку ў дзвюх частках[2]. Аднак ёсць падставы для сумневу ў тым, што месцам друку быў Полацк. Варта адзначыць, што Лявон Кішка ў 1697 годзе быў архімандрытам Віленскага базыльянскага манастыру Св. Тройцы і падпарадкоўваўся базыльянскаму протаархімандрыту Сымону Агурцэвічу, але не Марцыяну Белазору, які ад 29 верасня 1696 году ачольваў Полацкую епархію. Таму подпіс Полацкага архібіскупа, як

---

**1.** У выданні А. Д. Чарткова "Всеобщая библиотека России, или Каталог книг для изучения нашего отечества во всех отношениях и подробностях" на стар. 444 і 620 пададзеныя адпаведна наступныя запісы:

№ 47. О Сакраментахъ: выдалъ Леонъ Кишка; позволеніе подписалъ М. Біалозоръ въ Полотске, року 1697. 204 двойн. стр. въ 12.

№ 3. О Сакраментахъ. Полоцкъ 1697. 74 дв. стр. въ 16.

**2.** Гл. Estreicher – VIII, XVIII і Estreicher – XIX, 267.

аўтарытэтнай духоўнай асобы, ёсць толькі пацверджаннем таго, што праца Кішкі згодная з навукай Царквы, аднак не дае падставаў уважаць Полацк за месца друку. Зважаючы на тое, што ўжо Кіеўскі мітрапаліт Кіпрыян Жахоўскі, а пазней і ягоны спадкаемца на мітрапалічым пасадзе Лявон Кішка, значныя намаганні прыкладалі ў справе развою Супрасльскае друкарні, дзе ў 1722 годзе была надрукаваная праца самога Кішкі пад назвай "Собрание припадковъ краткое, и духовнымъ особомъ потребное", і як пададзена на тытуле: "Имущее в себе Науку о Сакраментахъ, о десяти Божиихъ Приказаняхъ, о Приказаняхъ Церковныхъ, и о Науце Христианской, съ выкладомъ Символа или Исповедания Веры Православныя Кафолическия, съ выкладомъ Молитвы: Отче нашъ: и Богородице Дево: Такожде Науку, како подобаетъ наставляти малыхъ или невежовъ в Веры Православной, содержащее". Лагічна разглядаць кнігу "О Сакраментахъ" адной з частак гэтага катэхізіса, якая раней асобна з'явілася гэтаксама ў Супраслі.

Надыход XVIII ст. ніяк не паўплываў на лад друку выданняў полацкае тэматыкі. Гэтак творы, якія полацкія езуіты прысвячалі полацкім ваяводам Станіславу Дангофу "Campus electoralis sub ducali campestris gradivi clava, ad militiam apertus foederatam in vota Illustrissimi ac Excellentissimi Domini, Sacri Rom. Imp. Comitis, D. Stanislai Donhoff Palatini Polocensis, Campiducis M. D. L. Neocorcinensi, Koscietricensis, Lucinensis, Kaluszynensis &c. Capitanei, atque eidem, per vivae vocis oracula, pacifice et secundissime electo, sub auspicatu, in palatinatum ingressum encomiastico consignatus stylo, a collegio Bathoreano polocensi Societatis Jesu" (1721), "Konwokacya planet na Sarmackim firmamencie sławą honoru, imienia y cnoty iaśnieiących pod elektoralnem polskiem niebem, na iasnoświetną Senatorskiego ingressu do Woiewodzińskiego Kasztelu apparencya, JWżnego Jmci Pana Stanisława Donhoffa Woiewody Połockiego, hetmana polnego W. X. L., Nowokorcińskiego, Kościerzyckiego, Lucyńskiego, Kałuszyńskiego, itd. Starosty ogłoszona, przy wypogodzoney prezencyi dziedzicznych luminarzów, JWżney Jmci Pani Zofii z Sieniawskich Donhoffowey woiewodziny połockiey, hetmanowey W. X. L. podczas tryumfalnych oyczystego świata applauzów polskim rytmem opisana od Kołlegium Bathorowego Połockiego Soc. Jesu" (1725) і Аляксандру Сапегу "Viae ad honores rationesq: amplissimi de animis liberorum patriae civium perpetuique triumphi Illustrissimae Sapieharum familiae communes, igrediente

palatinam Polociae urbem Illustrissimo Excellentissimo Domino Domino Alexandro Sapieha ... equite Aquilae albae liberis nuper civium suffragiis electro palatino Polocensi, a Collegio Polocensi et universa provincia Litvana Soc. Jesu, immortaliter illustrissiae suae familiae addicta, populo ad trimphum congregato propositae anno MDCCLV. concongregato propositae" (1755) убачылі святло, як і раней, у віленскай акадэмічнай друкарні.

## Кнігадрук у Полацку ад 1774 г. да 1829 г.

Апошняя чвэрць XVIII ст. кардынальна змяніла жыццё ня толькі полацкіх езуітаў, але і ўсяго Таварыства Ісуса. Але шлях, які прывёў да зменаў, распачаўся значна раней. Свецкія ўлады шэрагу каталіцкіх краінаў (Партугалія – 1758, Францыя – 1762, Гішпанія, Аўстрыя і Сіцылія – 1767) пачалі выдаляць езуітаў, ускладаючы на іх віну за ўнутраную нестабільнасць. У Рэчы Паспалітай змены наспявалі гэтаксама. Ужо ў лютым-красавіку 1767 года, у часе ўводу дзеля падтрымкі слуцкіх канфедэратаў дваццацітысячнага расейскага вайсковага кантынгента пад началам генэрала Нумарса, на Падзвінні пачалі шырыцца чуткі пра магчымы падзел дзяржавы. У верасні 1767 году храніст Полацкага Сафійскага манастыра занатаваў: "Афіцэр-матэматык з Масквы апісваў маёмасць, землі, яры, рэкі, азёры, млыны, фабрыкі, двары, гарады, мястэчкі, вёскі, уладальнікаў. Адкуль пайшла пагалоска, што хочуць адабраць па Дзьвіну. Напужаныя ваяводскія ўстановы пачалі за Дзвіну пераводзіцца."[3] 12 сакавіка 1772 году на загад расейскай імператрыцы Кацярыны II пяцідзесяцітысячнае войска пад началам генэрал-маёра Кахоўскага заняло тэрыторыю па Дзвіну ды Дняпро і ўжо не сыйшло.

Пецярбурская Канвенцыя ад 5 жніўня 1772 году і рашэнне Сойму Рэчы Паспалітай ад 30 верасня 1773 году ўзаконілі анэксію Расеяй паўночна-ўсходняй часткі дзяржавы. На той час на землях, што адыйшлі да Расеі, функцыянавалі езуіцкія калегіі ў Віцебску, Оршы, Полацку ды рэзідэнцыі ў Магілеве і Мсціславе, якія належалі да Мазавецкай правінцыі Таварыства Ісуса. Апрача таго, працавала калегія ў Дынабургу, прыналежная да Літоўскай правінцыі Таварыства.

---

**3.** Дневникъ Полоцкаго Софійскаго монастыря, начатый въ 1746 г. // Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 10. – Вильна : 1874, с. 348.

На забраных Расеяй землях знаходзіўся 201 сябар Таварыства Ісуса, у тым ліку 97 святароў. З агульнай колькасці езуітаў 97 працавала ў Полацкай калегіі, між іх – 27 святароў. Адсюль зразумела, чаму пазней Полацк быў абраны за цэнтр Беларускай правінцыі.

Расейскі ўрад адразу засяродзіў дзейнасць сваіх інстытутаў на ізаляцыі каталіцкіх структураў у Расеі ад астатняга каталіцкага свету. З гэтай мэтаю ўжо 25 снежня 1772 году было ўтворанае беларускае біскупства і прынятыя захады па недапушчэнні кантактаў з духоўнымі асобамі іншых краінаў. Але гэткі стан трываў нядоўга. 21 ліпеня 1773 году папа Клімент XIV пад ціскам каралеўскіх двароў згаданых вышэй краінаў сваім брэвэ "Dominus ac Redemptor" ліквідуе Таварыства Ісуса ва ўсім свеце, а 18 жніўня кангрэгацыя кардыналаў выдае інструкцыю, як мусіць адбывацца ліквідацыйны працэс. Мазавецкі правінцыял Казімір Сабалеўскі, маючы весткі аб надыходзячым няшчасці, 25 кастрычніка яшчэ да афіцыйнага абвяшчэння ліквідацыі Таварыства Ісуса ў Рэчы Паспалітай, якое адбылося 9 лістапада 1773 году, прызначыў рэктара Полацкае калегіі Станіслава Чарневіча сваім памочнікам (віцэ-правінцыялам) і даў яму ўладу над усімі езуіцкімі асяродкамі, што меліся на далучаных да Расейскай імперыі тэрыторыях. Гэты акт стаўся пачаткам аўтаномнага існавання беларускіх езуітаў.

Імперскія ўлады палічылі для сябе непрыймальным выконваць папскую пастанову, бо яе выкананне дыскрэдытавала інстытут самаўладдзя. Віцэ-правінцыял Чарневіч намагаўся развязаць паўсталую калізію і атрымаць ад імператрыцы дазвол на роспуск Таварыства Ісуса ў Расейскай імперыі. Аднак атрымаў катэгарычную адмову і загад больш не вяртацца да гэтага пытання. У сакавіку 1774 году віцэ-правінцыял, як духоўны кіраўнік, учыніў візітацыю ўсіх калегіяў, рэзідэнцыяў, місіяў, што дазволіла кансалідаваць сяброў таварыства і наладзіць духоўнае жыццё. Частка езуітаў палічыла сваім абавязкам выканаць брэвэ "Госпад і Адкупіцель" і пакінула Таварыства. З гэтае прычыны пачала адчувацца нястача асобаў святарскага стану. Станіслаў Чарневіч вырашыў прыймаць да складу Таварыства асобаў, што раней належалі да былых Мазавецкай і Літоўскай правінцыяў Societatis Jesu, з частак якіх утварылася Беларуская правінцыя. Першыя 20 маладых езуітаў былі высвячаныя на святароў 16 лістапада 1776 году. Біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, які апекаваўся ўсімі рыма-каталікамі на далучанных тэрыторыях, 30 ліпеня 1779 году

дазволіў адчыніць у Полацку навіцыят дзеля падрыхтоўкі кандыдатаў на езуітаў. Згаданая ўстанова распачала працу 2 лютага 1780 году. З дазволу імператрыцы і біскупа Сестранцэвіча была скліканая кангрэгацыя (з'езд прадстаўнікоў). Яна працавала ў Полацку з 11 па 18 кастрычніка 1782 году і абрала сваім кіраўніком (генэральным вікарыем) Станіслава Чарневіча. Апрача таго, былі развязаныя арганізацыйныя праблемы і падтрыманая кандыдатура заступніка Сестранцэвіча біскупа Яна Бэніслаўскага на пасланца да Апостальскага пасаду ў справе легалізацыі Таварыства Ісуса ў Расеі. Вынікам візыту біскупа Бэніслаўскага было тое, што наступнік Клімента XIV папа Пій VI дазволіў Таварыству Ісуса існаваць у межах Расейскае імперыі. Далейшае развязанне праблемаў, што да лёсу Каталіцкае царквы ў Расеі, а між імі і Таварыства Ісуса, настала ў часе знаходжання ў 1783-1784 гг. у Санкт-Пецярбургу папскага легата Джавані Архэці.

Адсюль пачынаецца паступовы развой Таварыства Ісуса ў межах Расейскае імперыі. З розных краінаў Еўропы пачалі прыязджаць адукаваныя асобы, што хацелі звязаць свой лёс з Таварыствам. Першымі з прыбылых былі Луіджы Руснаці, Луіджы Паніцоні, браты Каэтан, Франчэска, Луіджы ды Джузэпэ Анджаліні, Калюмбан Пфайфер, Антон Люстыг, Алоіз Ляндэ, Антон Шэдлер, Аўгустын Маньяні, намаганнямі якіх быў закладзены падмурак адукацыйнае сістэмы Полацкае калегіі.

Большасць даследчыкаў за пачатак друкарскае справы ў Полацку ўважаюць 1787 год, калі імператрыцай Кацярынай II быў выдадзены прывілей на друкарню пры Полацкай калегіі Таварыства Ісуса. Гэтая версія мае некалькі пацверджанняў. Па-першае, у верасні 1787 году варшаўскае выданне "Dziennik Handlowy" паведамляла пра выраб на фабрыцы Пятра Завадскага літараў для Полацкае друкарні.[4] Па-другое, да 1787 году выданні "Catalogus personarum et officiorum Societatis Jesu" выходзілі з магілеўскай друкарні архібіскупа Станіслава Богуша-Сестранцэвіча. Па-трэцяе, творы тэматычна павязаныя з Полацкам і пісаныя былымі езуітамі, такія як К. Бэніслаўскага "Pienia całodzienne i całonocne, na przybycie do kraiów swych Biało-Rossyiskich Nayiaśniejszej Katarzyny II, Cesarzowey, Stworzycielki, Prawodawezyni, i Matki całey Rossyi, od poddaństwa prowincyi

---

**4.** "Dziennik Handlowy. Zawieraiący w sobie wszystkie okoliczności, Pisma, Uwagi i Myśli Patryotyczne do Handlu ściagaiące się". – Warszawa : 1787, T. III, Cz. IX (wrzesień).



CARMEN

CUM

AUGUSTISSIMA JMPERATRIX

*TOTIUS ROSSIÆ*

CATHARINA II

*Ægra uteretur valetudine*

DICATUM HONORIBUS

*CELSISSIMI S. R. J. PRINCIPIS*

GREGORII POTEMKIN

*CAMPI-DUCIS*

EXERCITUUM ROSSIÆ,

*SENATORIS, VICE-PRÆSIDIS*

COLLEGII BELLICI,

JMPERATORIÆ MAJESTATIS

In Guberniis

*Aſtrachanenſi, Neo-Roſſiaci, Azovienſi, & Saratovienſi*

*VICARII,*

*Omnium Roſsiacorum Nec non Variorum Ordinum*

*EQUITIS*

á Collegio Polocenſi Societatis JESU

*Jnfinitis Jpſi nominibus Obſtricto.*

VILNÆ

Typis S. R. M. penes Academiam 1781.

**Песня радасці з аздараўлення Кацярыны II (Вільня, 1781).**

Dźwińskiey, przez X. Konstantego Benisławskiego, iednego z naypoddańszych poddanych, wierszem Królewskim złożone" (1780) і М. Карыцкага "Carmen Cum augustissima Jmperatrix Totius Rossiae Catharina II Aegra uteretur valetudine, dicatum Honoribus Celsissimi S. R. J. Principis Gregorii Potemkin Campi-Ducis Exercituum Rossiae, Senatoris, Vice-praesidis Collegii Bellici, Jmperatoriae Majestatis In Guberniis Astrachanensi, Neo-Rossiaci, Azoviensi & Saratoviensi vicarii, Omnium Rossiacorum Nec non Variorum Ordinum Equitis a Collegio Polocensi Societatis Jesu Infinitis Jpsi nominibus Obstricto" ўбачылі святло ў віленскай акадэмічнай друкарні. Урэшце будынак, дзе месцілася друкарня, паўстаў толькі ў 1778 годзе. Аднак прыняўшы ўсё вышэйпісанае, варта звярнуць увагу і на тое, што розныя бібліяграфічныя выданні змяшчаюць звесткі пра больш раннія за 1787 год полацкія друкі (гл. №№ 1 – 7). Цяжка ўважаць гэтыя звесткі за суцэльныя памылкі ўкладальнікаў. Тут у якасці тлумачэння можам дапусціць, што нейкі друкарскі варштат меўся ў Полацку яшчэ да атрымання імператарскага прывілею.

На пачатку сваёй дзейнасці полацкая друкарня мела шчыльныя сувязі з віленскай акадэмічнай друкарняй, дзе ў 1773-1788 гг. прэфектам быў экс-езуіт і будучы біскуп Давід Пільхоўскі. Справамі друкарні ў Вільні апекаваліся напачатку Рафал Літвінскі, а з 1799 году – Мікалай Тамашэўскі. З гэтае прычыны некаторыя полацкія выданні паводле аздаблення маюць падабенства з віленскімі. Варта параўнаць выданні "Augustissimo ac potentissimo Paulo I" (1797, № 85) і "Grammatyka francuzka krótko zebrana" (1798, № 92) з віленскімі "Carmen Cum augustissima Jmperatrix Totius Rossiae Catharina II" (1781) і "Grammatyka francuzka krótko zebrana" (1796) адпаведна. Выданне ж полацкага календара можна ўважаць за працяг традыцыяў календара віленскага, укладанне і друк якога ў Віленскай акадэмічнай друкарні цягам чвэрці стагоддзя здзяйсняў выхаванец Полацкае калегіі Францішак Папроцкі. Арганізатарамі працы полацкае друкарні былі сябры Таварыства. Гэтак пасаду прэфекта ў розныя гады займалі Мацей Ракеты (1787-1797), Тадэвуш Бжазоўскі (1797-1805), Алоіз Лянкевіч (1805-1806), Геранім Гарабурда (1806-1809 і 1811-1814), Ян Заранак (1809-1811), Ігнат Хадыніцкі (1814-1818), Вінцэнт Жолудзь (1818-1820). Друкарамі былі пераважна таксама езуіты: Базыль Шыркевіч (1787-1800), Алоіз Лянкевіч (1800-1805), Ян Корсак (1806-1815), Антон Сакалоўскі (1815-1820), Адам Міхалоўскі (1818-1819), Ян Ляшчынскі (1818-1820), Ян Брукнер (1819-




**Граматыка французскае мовы (Вільня, 1796).**

1820), Мацей Дрыкшаў (1819-1820). Апрача таго на працы ў друкарні былі занятыя яшчэ каля дзесятка асобаў.[5]

Дзеля забеспячэння навучальнага працэсу Полацкая друкарня перадрукоўвала ня толькі творы, што раней друкаваліся ў Рэчы Паспалітай, але і працы найлепшых езуіцкіх тэолагаў і казальнікаў іншых еўрапейскіх краінаў. Частку друкаў складаюць працы выкладчыкаў полацкае калегіі, а пазней акадэміі. Дзеля вызначэння аб'ёму прадукцыі, выдаванай друкарняй, неабходна валодаць звесткамі аб фармаце, колькасці старонак, накладзе кожнага з выданняў. На жаль выходныя звесткі аб друках полацкае друкарні носяць спарадычны характар, і абагульніць іх не ўяўляецца магчымым. Аднак з пэўнасцю можна казаць, што пры канцы XVIII ст. друкарня па колькасці выданняў стала лідарам на землях сучаснае Беларусі.[6] Такі самы стан захаваўся на пачатку XIX ст. У 1801-1805 гг. полацкая друкарня выдала сама меней 79 кніг і паводле колькасці саступала адно толькі віленскай акадэмічнай друкарні (115 кніг). Пададзеная ніжэй гістаграма дазваляе прасачыць дзейнасць друкарні цягам гадоў. Не зважаючы на пэўныя спады, выразна праглядаецца ўзыходзячы трэнд. Некаторыя з тых спадаў можна патлумачыць непаўнатой звестак, іншыя – прычынамі зразумелымі. Гэтак вядома, што пасля заняцця 26 ліпеня 1812 году Полацка францускім войскам друкарня прыпыніла працу і аднавіла яе толькі ў наступным годзе. Зачыненая ж полацкая друкарня была адразу пасля атрымання загаду імператара Аляксандра I, падпісанага 25 сакавіка 1820 году. Таму для 1812 і 1820 гг. ёсць магчымасць прыблізна вылічыць колькасць выданняў, што маглі выйсці цягам поўнага году. Да пабудобы гістаграмы з паважных прычынаў не былі скарыстаныя звесткі з укладзенага Шторхам і Адэлунгам сістэматычнага агляду (гл. Бібліяграфічны спіс). Па-першае, звесткі аб часе выхаду выданняў полацкае друкарні не адпавядаюць інфармацыі, атрыманай з іншых крыніцаў. Насуперак пададзенаму часу друку (1801–1805 гг.) на самой справе ў аглядзе апісаныя кнігі, што друкаваліся ў 1790–1810 гг. Па-другое, пераважная частка полацкіх выданняў у аглядзе датаваная 1801–1802 гг. так, што колькасць выданняў у 1802 годзе сягае 42, што больш чым удвая перавышае колькасць, пададзеную ў астатніх крыніцах. Верагодна ўкладальнікі ня мелі дакладных звестак пра час

---

**5.** Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy, 1564-1995. Opr. L. Grzebień.

**6.** А. Мальдзіс у працы "На скрыжаванні славянскіх традыцый" (с. 242) падае лічбы друкаў XVIII ст.: у Горадні – 97, Полацку – 82. Паводле нашых падлікаў, з полацкай друкарні выйшлі 122 кнігі, што дазваляе ёй заняць першае месца.




**Выданне кніг полацкай друкарняй у 1787-1820 гадах.**

выхаду выданняў з друку і год пазначалі адвольна. Аднак да аналізу моваў выданняў полацкае друкарні звесткі сістэматычнага агляду скарыстаныя, таму тут маем паўнейшую карціну. Гэткім чынам спіс моваў полацкіх друкаў мае наступны выгляд:

1) польская – 243,2;
2) лацінская – 157,4;
3) француская – 22,7;
4) нямецкая – 20,5;
5) латгальская – 18,7;
6) расейская – 4,5;
7) італьянская – 4,2;
8) беларуская – 1,0;
9) літоўская – 0,2;
10) грэцкая – 0,15.

Прыведзеныя лічбы маюць выгляд дробу, бо некаторыя з выданняў з'яўляюцца дзвюх-, трох-, і нават шасцімоўнымі. Як відаць, першыя дзве пазыцыі трывала займаюць мовы польская і лацінская. З кожнай новай знаходкай пададзены спіс моваў можа зазнаць зменаў, асабліва ў такіх пазыцыях як 3-4, 6-7 або 8-10. Найбольш верагодна, што з цягам часу будуць знойдзеныя выданні ў літоўскай мове, бо тэкст у гэтай мове маецца ў матэрыялах петрыкоўскага правінцыйнага сіноду "Rituale sacramentorum ..." (№ 183) і ёсць звесткі пра выданне "Ustawy Bractwa ..." (№№ 68, 70, 204, 495) таксама і па-літоўску. Верагодна адшуканне кніг у грэцкай мове, бо ў выданні "Augustissimo ac Potentissimo Alexandro I ..." (№ 314) змешчаны тэкст па-грэцку і гэтая мова ў калегіі выкладалася. Ня выключана, што выходзілі выданні друкаваныя габрэйскім шрыфтам, бо гэткі шрыфт меўся ў полацкай друкарні. Да таго ж сябры Таварыства Ісуса дапамагалі полацкім марыявіткам у справе хрыстыянізацыі габрэяў, што вынікае з даклада міністра Духоўных справаў і Народнае адукацыі Расейскае імперыі імператару Аляксандру І ад 13 (25) сакавіка 1820 году аб тым, што "у 1801 годзе езуіты скарыстоўвалі гвалт, навяртаючы габрэйскіх дзетак ... Спатрэбілася моц губернскага начальства, каб выцягнуць згаданых габрэйскіх дзетак з манастыра".

Пераважную большасць выданняў паводле тэматыкі складалі кнігі непасрэдна прызначаныя для забеспячэння навучальнага працэсу: праграмы навучання, падручнікі ў розных галінах ведаў. За імі ішлі выданні больш шырокага ўжытку: катэхізісы, малітоўнікі,

духоўныя практыкаванні. Выходзілі выданні мастацкага зместу, аўтарамі якіх былі калі не самі езуіты, дык асобы блізкія поглядамі да кансэрватыўнага кірунку грамадскае думкі (Міхал Карыцкі, Нікадэм Мусніцкі, Адам Нарушэвіч, Ігнат Красіцкі, Францішак Карпінскі).

Значныя непрыемнасці прынес 1800 год. Агульна было вядома, што пасля няўдалых дзеянняў супраць напалеонаўскай Францыі ў Галандыі ў верасні-кастрычніку 1799 году сумеснага англійска-расейскага корпусу і яго капітуляцыі, сатэліты вінавацілі адзін аднаго ў паразе і фактычна дайшло да спынення якіх-колечы дыпламатычных зносінаў. У гэтай сітуацыі езуіты паказалі сябе палітычна недасведчанымі, бо ў выдадзеным полацкай друкарняй календары на 1800 год меўся пахвальны водгук аб англійскім флоце. Калі рапарт Санкт-Пецярбурскага цэнзара Фёдара Туманскага дайшоў да імператара Паўла I, той надта абурыўся. Вынікам стаў выдазены мітрапаліту Станіславу Сестранцэвічу загад ад 6 красавіка 1800 году, які абавязваў спаліць усе календары, перагледзець раней выдадзенныя кнігі, адхіліць ад выканання абавязкаў цэнзара біскупа Яна Беніслаўскага, права цэнзуры духоўных выданняў даць толькі мітрапаліту, а свецкія кніжкі без адпаведнае цэнзуры не друкаваць.[7] З гэтае прычыны на вокладцы календара на 1802 год маецца надпіс, што выдадзены ён "З дазволу Пецярбурскай Імперскай цэнзуры" (гл. № 136). Ад часу закладання акадэміі права цэнзуры надаецца сябрам Таварыства Ісуса. Сярод цэнзараў значацца Матэа Малінары, Язэп Цытовіч, Міхал Ляснеўскі.

Езуіты працягвалі інтэнсіўную выдавецкую дзейнасць, хаця варункі пачалі паступова пагаршацца. Гэтак з пачаткам пабудовы цытадэлі ў Дынабургу ў 1811 годзе была зачыненая тамтэйшая калегія. Шляхецкая калегія ў Санкт-Пецярбургу, якая адчыніла свае дзверы ў 1806 годзе, перастала існаваць у тым самым годзе. Верагодна, дазвол на адчыненне акадэміі ў Полацку быў дадзены ў якасці кампенсацыі за ліквідацыю дзвюх згаданых калегіяў, каб скарыстаць наяўны выкладчыцкі персанал, бо сістэма дзяржаўнай адукацыі не была ў стане стаць альтэрнатывай езуіцкаму навучанню.

Пасля аднаўлення на падставе булы папы Пія VII "Sollicitudo omnium ecclesiarum" ад 7 жніўня 1814 году Таварыства Ісуса ва ўсім свеце, расейскаму ўраду не было больш патрэбы цярпець

---

**7.** Полное собраніе законовъ Россійской имперіи, съ 1649 года. Т. XXVI. 1800-1801. – Санкт-Петербург : Тип. 2-го Отд-ния Собств. Е.И.В., 1830, с. 128.




**Віленскі каляндар (Вільня, 1789).**

існаванне згуртавання ў Расейскай імперыі. Пачалося паступовае абмежаванне дзейнасці езуітаў, да адной з праяваў яго належыць ліквідацыя Пецярбурскай калегіі і выдаленне Таварыства з сталіцы імперыі на падставе імператарскага загаду ад 20 снежня 1815 году (1 студзеня 1816 году паводле грыгарыянскага календара). Урэшце працэс завяршыўся выдаленнем сяброў Таварыства Ісуса за межы Расейскае імперыі на падставе загаду ад 13 (25) сакавіка 1820 году. Выхаванец полацкіх езуітаў Эдвард Масальскі ўспамінаў, што "адразу пасля Велікодных святаў (02.IV – М.Б.) езуіты пачалі ад'язджаць на расстаўленных праз урад конях партыямі па 20, і па двух на адной брычцы, абкладзенай скрынямі і клункамі. ... Каля Зялёных Святаў (21.V – М.Б.), калі ўжо амаль усе езуіты выехалі, прыехаў за мной брат Язэп, з асобнай падводай пад кнігі. Развітаўшыся тады з Полацкам і забраўшы пакункі з кнігамі і партрэт караля Батуры, выцягнуты з рамы і скручаны ў рулон, ад'ехалі з гэтага гораду."[8]

Пасля ад'езду езуітаў віцебскі цывільны губернатар Аляксей Бутовіч ужо 9 верасня 1820 году звяртаўся да міністра Народнае адукацыі Аляксандра Галіцына з просьбай аб перадачы для губернскіх патрэбаў друкарскага абсталявання, шрыфтоў і хлопцаў, што займаліся абслугоўваннем. Аднак міністр ягоную просьбу не задаволіў. Паезуіцкія будынкі з усім абсталяваннем, былі аддадзеныя пад вайсковую ахову. Фаўст Цяцерскі, абраны правінцыялам дамініканаў у 1818 годзе (гл. № 402), пакінуў у дзённіку візітацыі гэткія занатоўкі: "1821, Жнівень, 11: Праязджаючы праз Полацк глядзеў на сумную выяву паезуіцкіх будынкаў: абадраныя ўпрыгожанні, спустошаныя склады, падрапаныя муры і г.д., здаецца надыйшло руйнаванне. Кажуць, што будынкі будуць аддадзеныя кадэтам. Бяз слёз і халоднага поту глядзець на гэтае спусташэнне немагчыма. ... 1821, Верасень, 9: Выезд з Вушачаў. Позна прыехалі ў Полацк. Апрача пахвалы нічога немагчыма казаць пра манахаў, што жывуць, як у нашым, гэтак і ў паезуіцкім манастыры. Адно сумна, што прыгожыя і велічныя будынкі пакінутыя. Адстаўныя жаўнеры нясуць варту, інваліды

---

**8.** Edward Tomasz Masalski: Z pamiętników (1799-1824) / Z filareckiego świata: Zbiór wspomnień z lat 1816—1824. – Warszawa : 1924, s. 258.

**9.** Дневникъ визитатора Доминиканскихъ монастырей Северо-Западнаго края за 1821-1832 гг. / Археографическій сборникъ документовъ, относящихся къ исторіи Северо-Западной Руси. Т. 14. – Вильна : 1904, сс. 126, 127.

сядзяць пры розных складах."[9] Адкуль вынікае, што ў гэты час у будынках, пакінутых езуітамі, жылі манахі-дамініканы. Правінцыял дадае, што будынкі, пэўна, аддадуць кадэтам, але нічога не кажа пра піяраў. Падобна дазвол на адчыненне піярскае вучэльні ў Полацку ўлада разглядала як часовы варыянт, пакуль ня будуць вырашаныя арганізацыйныя праблемы, павязаныя з ужо запланаваным закладаннем кадэцкага корпусу.

Урэшце рашэнне аб перадачы будынкаў манахам закону школаў пабожных, то бок піярам, пад вучэльню было прынятае. Адбылося тое гэткім чынам. Урад пасля сканчэння навучальнага году 1821/1822 зачыніў у Віцебску піярскую калегію, што працавала ад 1799 году, і прылучыў касцёл з манастырскімі будынкамі да дзяржаўнае ўласнасці.[10] Наўзамен перадаў манахам паезуіцкія будынкі ў Полацку і дазволіў адчыніць тут вышэйшую вучэльню. Урачыстае адкрыццё адбылося 1 верасня 1822 году. Віленская газета "Літоўскі кур'ер" гэтак апісала падзею: "Правінцыял піяраў кс. Купсць 1.IX.1822 г. адчыніў у Полацку 4 ніжэйшыя класы, а 15-га таго ж месяца распачаліся вышэйшыя курсы гэтае новае ўстановы. Перад тым у прысутнасці цывільных уладаў і вялікай колькасці грамадзкасці гэты самы правінцыял распачаў пасяджэнне прамовай ад адукацыі моладзі, мэтай якой ёсць удасканаленне сэрца праз узрастанне ў хрысціянскіх цнотах, праз узбагачэнне думак, практыкаванне розуму, і ўрэшце ўмацаванне цела праз неабходныя для таго сродкі і навучанне сціпламу жыццю. Потым выкладчык польска-лацінскае літаратуры кс. Лашкевіч у сваёй прамове заахвочваў моладзь да актыўнага занятку навукамі. Настаўнік жа нямецкае мовы Шлезінгер па-французску тлумачыў, што дасканалае валоданне іншаземнымі мовамі значна спрыяе асвеце. У канцы быў прачытаны расклад лекцыяў для чатырох ніжэйшых і трох вышэйшых класаў. Пасяджэнню папярэднічала ўрачыстая імша аб Святым Духу, са спевам "Veni Creator", а пасля сканчэння "Te Deum". На гэтым скончылася сціплая ўрачыстасць адкрыцця піярскай школы ў Полацку."[11] Аднак друкарня распачала сваю працу пазней, бо сціслы запіс курсу даваных ведаў пад назвай "Wykład nauk dawanych w szkole wyższey połockiey xx. pijarów. Od dnia 1. września 1822 roku, do

---

**10.** Marek Gozdawa. Wspomnienie o Pijarach witebskich / Kwartalnik Litewski. Wydawnictwo poświęcone zabytkom przeszłości, dziejom, krajoznawstwu i ludoznawstwu Litwy, Białorusi i Inflant. – Petersburg : 1910, T. 1 (marzec), ss. 107-108.

**11.** I. G. Materyały do dziejów Akademii Połockiej i szkół od niej zależnych. – Kraków : 1905, s. 134.

dnia 4. lipca 1823 roku" выйшаў у 1823 годзе з друкарні віленскіх піяраў. Адшукаць сярод бібліяграфічных запісаў спасылкі на выданні, ранейшыя за 1824 год, не ўдалося. З гэтае прычыны за пачатак працы піярскае друкарні ў Полацку мусім прыняць азначаны год. Пэўна, адчуванне часовасці побыту ў Полацку наклала адбітак як на працу Вышэйшае вучэльні, гэтак і друкарні пры ёй. Навучальны працэс у вучэльні грунтаваўся на падручніках, дасыланых з Вільні, або Варшавы, таму друкарня (у адрозненне ад часоў езуіцкае калегіі) не была засяроджаная на абслугоўванні вучэльні. У выданнях друкарні гэтага перыяду пэўнай тэматычнай скіраванасці не праглядаецца. Аднак піяры працягвалі місіянерскую дзейнасць сяброў Таварыства Ісуса сярод латгальцаў. Сведчаннем таму перавыданне кніг, што раней друкавалі езуіты: "Eysas Łyugszonas ..." (№№ 473, 494), "Abece" (№ 493), "Gromota brolistes ..." (№ 495), "Padumszonas un Łyugszonas ..." (№ 496). Гэтаксама дзеля шырокага ўжытку быў перавыдадзены малітоўнік "Zbiór wybornego i gruntownego nabożeństwa ..." (№ 492). Паводле гістарычных звестак, піярская вучэльня спыніла сваю працу ў 1830 годзе, пэўна пасля сканчэння навучальнага году. Аднак звестак пра выданні друкарні гэтага году адшукаць не пашчасціла.

У часе рэалізацыі ў 1832-1835 гг. плану пераабсталявання паезуіцкіх будынкаў дзеля патрэбаў кадэцкага корпусу дзяржаўная камісія палічыла залішняй прысутнасць друкарні ў Полацку. Абсталяванне было дэмантаванае і перададзенае заснаванаму 8 лістапада 1833 года Кіеўскаму ўніверсітэту Святога Ўладзіміра.

Наступнай кнігі Полацк мусіў чакаць больш за палову стагоддзя. Толькі ў 1885 годзе ў прыватнай друкарні былога віленскага месціча Хайма Вульфава Клячкі ўбачыла святло невялікая, складзеная з 34 старонак, кніжыца святара Міхаіла Дуброўскага пад назвай "Житіе преподобной Евфросиніи, княжны Полоцкой, съ краткимъ описаніемъ основаннаго ею въ г. Полоцке женскаго монастыря и находящейся въ немъ святыни". Але гэта ўжо іншая гісторыя.

*Міхась Баўтовіч*

## Выданні друкарні Таварыства Ісуса (1774 - 1820)

## 1774

**Kantyczka ...**

**1.** Kantyczka, abo nabożne pieśni w narzeczu połockim.
Połock : w drukarni Soc. Jesu, 1774.
[?] c. ; [?]°; беларуская.
**Estreicher не згадвае.**

**Заўвага.** Выданне згаданае Вацлавам Ластоўскім у артыкуле "Pryczyny zaniepadu biełaruskaho adradžeńnia u XIX stal." (biełaruskaja wilenskaja czasopiś "Homan", № 6, 3 marca 1916, s. 3).

**KATENBRING, Józef (1730 – 1805)**

**2.** Petropolis. Carmen.
[Polociae] : [1774].
24 c.; 4°, лацінская.
**Estreicher – XXV, 188.**

**Заўвага.** На адвароце тытуловага аркуша надпіс: "Immortali nomini illustrissimi ac excellentissimi domini Zachariae comitis de Czernichew Ordinum Rossiacorum equitis, exercituum supremi ducis, Collegii Bellici praesidis, gubernatoris sui benevolentissimi, d.d.d. Collegium Polocense Societatis Jesu cum ceteris in Alba Russia".

## 1775

**Exercitationes literariae …**

**3.** Exercitationes literariae ex Historia, Geografia politica ac naturali, Algebra, Geometria et Trigonometria etc. habitae in Collegio Polocensi Soc. Jesu.
[Polociae] : [1775].
16 c.; 4°, лацінская.
**Estreicher – XVI, 127-8.**

## 1777

**Exercitationes literariae ...**

**4.** Exercitationes literariae ex Jure naturali, Historia, Geografia politica, ac naturali, Algebra, Geometria, et Trigonometria tam theoretica, quam practica, Gnomonica, Sectionibus conicis; Mechanica, Statica, Hydrostatica, Hydraulica; Architectura militari, et civili; Astronomia, Physica, Optica, Catoptrica, Dioptrica, Rhetorica, Poesi, Grammatica, etc. Habitae in Collegio Polocensi Societatis Jesu. Anno Reparatae Salutis MDCCLXXVII.
[Polociae] : 1777.
22 с.; 4°, лацінская.

**Estreicher – Dopełnienia i sprostowania, z.I, 193.**

**Заўвага.** Ва ўступе змешчаныя прысвячэнні намесніку Полацкаму і Магілеўскаму, генэрал-губернатару З. Чарнышову (па-лацінску) і Полацкаму губернатару А. Нарышкіну (па-расейску).

## 1778

**SEGNERI, Paolo (1624 – 1694)**

**5.** Penitent nauczony dobrey spowiedzi, albo Książeczka duchowna, z którey się każdy nauczyć może sposobu powrócenia do łaski Bożey i wytrwania w niey. Wydana po włosku od Pawła Segnerego Soc. Jesu. Przełożona na polski ięzyk przez iednego Kapłana tegoż zakonu.
w Połocku : w uprzywil. od Jey Jmper. Mci Drukarni Coll. Soc. Jes.; R. P. 1778.
271, [3] с.; 16°, польская.

**Estreicher – XXVII, 346.**

**Заўвага.** Пераклад кнігі па навучанню праўдзівай споведзі, што пад назвай "Il penitente istruto a' ben Confessarsi: operetta spirituale, Da cui ciascuno può apprender il modo certo di ritornar in gratia del suo Signore, e di mantenersi" ўпершыню выйшла з друку ў 1669 г. у Балоніі. Верагодна, маецца памылка або ў даце, або ў назве друкарні, бо імператарскі прывілей нададзены друкарні ў 1787 г. Гл. № 84.

## 1779

**Dziesięc niedziel ...**

**6.** Dziesięc niedziel nabożeństwa do św. Ignacego.
[Połock] : [1779].

[?] с.; [?]°, польская.

**Kadulska – 210.**

**Заўвага.** Выданне згаданае пад № 35 у "Вопісе кнігасховішча пры друкарні, размешчанага ў двух залях і на калідоры, з вопісам паезуіцкіх свецкіх кніжак, перададзеных беларускім гімназіям у 1831 годзе". Верагодна, ёсць перакладам з італьянскай мовы твора Pasquale de Mattei "Novena in apparecchio divoto alla festa di S. Ignazio di Loiola fondatore della Compagnia di Gesù". Датаванне полацкага друку выглядае памылковым, бо падобныя выданні выходзілі з-пад варштату ў Полацку ў 1790-1798 гг., у ліку якіх і версія ў лацінскай мове. Гл. №№ 37, 456.

## 1784

**ALVARIS, Emmanuelis (1526 – 1582)**

**7.** De institutione grammatica.
Polociae : typis S. J., 1784.
272 с.; 8°, лацінская.

**Estreicher – wyd. 1, I, 23.**

**Заўвага.** Падручнік лацінскай граматыкі Альварыса выдаваўся ў Полацку ў розных варыяцыях некалькі разоў. Гл. №№ 31, 63.

## 1787

**CZERNIEWICZ, Stanisław (1728 – 1785)**

**8.** Mowa do Nayiasnieyszey Imperatorowey całey Rossyi Katarzyny II. miana w Połocku w kościele XX. Jezuitów przez J. X. Stanisława Czerniewicza S. J. prowincyała Białoruskiego.
[Połock] : [1787].
1 с.; 4°, польская.

**Estreicher – XIV, 567.**

**Заўвага.** Гэтае і наступнае выданні змяшчаюць тэксты прамоваў Станіслава Чарневіча 20.V.1820 г. у часе наведання Полацка імператрыцай Кацярынай II.

**CZERNIEWICZ, Stanisław (1728 – 1785)**

**9.** Mowa do Nayiasnieyszey Monarchini Katarzyny miana w pałacu przez J. X. Stanisława Czerniewicza S. J. prowincyała Białoruskiego.
[Połock] : [1787].
1 с.; 4°, польская.

**Estreicher – XIV, 567**

**Ustawy ...**

**10.** Ustawy przystoyney Obyczayności do Zachowania się cnotliwego w Pożyciu Ludzkim. Według Każdego Stanu i Wieku.
w Połocku : w Uprzyw. od Jey Imperatorskiey Mści Drukarni Colleg. Soc. Jesu, 1787.
163, [3] с.; 12°, польская.

**M. Inglot SJ, St. Obirek. Jezuicka ars historica, 2001, s. 226**

**Заўвага.** Твор перавыдаваўся ў 1794 і 1806 гг. Гл. №№ 69, 253.

**[SCHEGA, Johann (1595 – 1664)]**

**11.** Verus Jesu Socius.
Polociae : 1787.
[?] с. ; [?]°; лацінская.

**M. Inglot SJ, St. Obirek. Jezuicka ars historica, 2001, s. 226**

**Заўвага.** Верагодным аўтарам з'яўляецца аўстрыйскі езуіт Ёган Шэга. Кніга пад назвай Schega Joannes "Jubilus de eo, quisnam sit Religiosus, et verus Jesu Socius" выходзіла з друку ў 1648 і 1681 гг. Былі перавыданні і ў 1813-1820 гг. Гл. № 472.

## 1788

**Catalogus personarum ...**

**12.** Catalogus personarum et officiorum Societatis Jesu in Alba Russia in annum 1788.
Polociae : In Privilegiata à Sua Imperatoria Majestate Typographia Coll. Soc. Jesu, [1788].
30 с.; 12°, лацінская.

**Estreicher – XIV, 91.**

**Заўвага.** Спісы сяброў Таварыства Ісуса выходзілі з друку штогод на пачатку каляндарнага году да выгнання іх з Расейскай імперыі. Назва штогадовых выпускаў некалькі разоў змянялася.

**COLONIA, Dominik De (1660 – 1741); ESTKO, Piotr (1749 – 1802)**

**13.** De arte rhetorica libri quinque. Lectissimis veterum authorum aetatis aureae exemplis illustrati et ad usum candidatorum eloquentiae accomodati.
Polociae : In Privilegiata à Sua Imperatoria Majestate Typographia Coll. Soc. Jesu, Anno Domini 1788.
262 с.; 8°, лацінская.




**Першае полацкае выданне каталога сяброў Таварыства Ісуса і займаных імі пасадаў (1788).**

